ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# КАНФЕДЭРАЦЫІ ВОЙСКА ВКЛ ЯК СПОСАБ ШЛЯХЕЦКАЙ САМААРГАНІЗАЦЫІ

ВІКТАР ЯКУБАЎ

***Анатацыя:*** Тэкст прысвечаны праблеме станаўлення і замацавання ў грамадскай практыцы права канфедэрацыі – аднаго са слупоў інстытута шляхецкага самакіравання ў ВКЛ. Раскрываецца гісторыя ўзнікнення, дапасавання да існуючых сацыяльных структур і сістэма арганізацыі аб'яднанняў шляхты ў войску ВКЛ.

***Ключавыя словы:*** войска, канфедэрацыя, самаарганізацыя, дзяржаўныя структуры, грамадскія інстытуты.

## MILITARY CONFEDERATIONS OF THE GDL AS FORMS OF SZLACHTA SELF-ORGANISATION

***Abstract:*** The text deals with the right of confederation, one of the pillars of the institute of szlachta (nobility) self-government in the GDL, and the issue of its establishment and consolidation in public policy. The history of origin, inclusion in existing social structures as well as szlachta organisation system in the GDL army are revealed.

***Keywords:*** Army, Confederation, Self-Organisation, State Structures, Public Institutions.

Адным з найбольш важных слупоў традыцыі самакіравання шляхты ВКЛ з’яўлялася права на самастойнае аб’яднанне (лац. confederatio) з мэтамі абароны сваіх правоў. Пачатак юрыдычнага афармлення станавых палітычных правоў паклаў Мельніцкі прывілей 1501 года, які дазволіў *сенатарам* папракаць (упамінаць) караля ці нават адмовіцца ад падпарадкавання яму, калі той пачне парушаць правы падданых і ператварацца ў тырана. 21 артыкул “Генрыкавых артыкулаў” 1573 года замацаваў *за ўсёй шляхтай* права пасіўнага супраціўлення, адмовы ад паслушэнства каралю ў выпадку парушэння ім законаў (Volumina constiutionum, 2005: 329).

На кшталтванне тэрміналогіі юрыдычных і культурных норм шляхты ВКЛ значны ўплыў аказала лацінскамоўная еўрапейская і польская традыцыя. Найбольш актыўна гэта пранікненне адбывалася ў часы войнаў, калі наша шляхта збіралася ў вайсковых табарах побач з польскімі наёмнікамі і валанцёрамі, а вярхоўнай уладзе была неабходна падтрымка. Першая канфедэрацыя (сход) войска ВКЛ была створана ў абозе войска пад Віцебскам (1562 год) у час Полацкай вайны і дапамагла шляхце ВКЛ дабіцца ад цэнтральнай улады значных саступак (Янушкевіч, 2007: 291), фактычна паклала пачатак трансфармацыі ВКЛ са спадчынай манархіі ў шляхецкую рэспубліку. У “Віцебскіх спісах” ВКЛ названа шляхтай “Рэччу Паспалітай нашай”, асобнай ад Польшчы (Янушкевіч, 2007: 292).

“Працэс канфедэрацыі” адбываўся так: жаўнеры змаўляліся і з’язджаліся альбо ў абозе, альбо ў касцёле, дзе абвяшчалі сябе канфедэрацыяй, “братэрскім”, “рыцарскім” колам. Яны адмаўляліся ад падпарадкавання ўладзе гетмана і дзяржаўныхураднікаў, пакуль не вырашыцца праблема, дзеля якой стварауся звяз. Тут жа сярод удзельнікаў абіралі сабе кіраўніка – маршалка – і складалі акт канфедэрацыі, з патрабаваннямі і спісам удзельнікаў. Затым прыносілі прысягу трымацца разам да дасягнення мэты, не парушаць умоў акта, вызначалі кірунак ад’езду з тэатра баявых дзеянняў. Пасля чаго “бралі лежа” – займалі сталовыя эканоміі, адбіралі сабе дзяржаўныя прыбыткі ў кошт пагашэння запазычанасці і чакалі, пакуль іх прадстаўнікі з’ездзяць да караля і той не дашле камісараў, каб вызначыць памер аплаты і зверыць спісы ўдзельнікаў з дадзенымі попісаў польнага пісара. Калі са скарбу прывозілі грошы, мэта канфедэрацыі дасягалася. Сімвалічна афармляючы сканчэнне канфлікту і пазбягаючы пакарання канфедэратаў пазней, акт канфедэрацыі спальвалі.

Усе галоўныя пытанні вырашаліся простай большасцю галасоў на сходзе раўнапраўных таварышаў – коле. Пагашэнне канфліктаў на коле ажыццяўлялася рознымі метадамі: ад просьбаў да “разнясення на шаблях”. Дэмакратычная арганізацыя спрыяла росту папулярнасці канфе-

дэрацый – такія формы прымае большасць шляхецкіх аб'яднанняў. Так, для кіравання краінай у часы міжкаралеўя, пасля смерці Жыгімонта Аўгуста ў 1572 годзе, у Вільні быў скліканы першы генеральны з'езд, ці каптуровая канфедэрацыя, а спробы дэтранізацыі Жыгімонта Вазы ў 1606–1608 гадах і паход па царскую пасаду для Ілжэдзмітрыя II шляхта ўжо афармляла як адмысловыя канфедэрацкія колы.

Большасць персанальнага складу войскаў Рэчы Паспалітай у Інфлянтах у 1604–1609 гадах складалі грамадзяне ВКЛ, галоўнай мэтай іх аб'яднанняў было паляпшэнне матэрыяльнага становішча ўдзельнікаў. Легальнасць і поспех дзейнасці канфедэрацый залежаў ад прызнання іх дзяржаўнымі структурамі. У складзе канфедэрацый была захавана тая самая службовая іерархія і персанальны склад аддзелаў, якімі яны былі ў дзейным войску. Канфедэрацыі з ВКЛ спыняліся ў велікакняскіх эканоміях, а з кароннага войска (акрамя "сталічнай" з 27 студзеня 1612 па 16 красавіка 1614 года, дзе былі харугвы з ВКЛ) праходзілі праз ВКЛ, але спыняліся ў чаканні разліку ў Кароне: Львове, Быдгашчы, Кіеве і інш. Памяншаючы страты ВКЛ ад свайго ўтрымання, канфедэраты дазвалялі сабе перакласці частку выдаткаў на Карону. Так, паводле дамовы ад 17 лістапада 1612 года, у Кросне паміж "сапежынцамі" і львоўскімі "сталічнымі" канфедэрацыямі, аж да роспуску "берасцейскіх" 1 лістапада 1613 года, існавала не толькі ўзаемная каардынацыя дзеянняў, але пад "кармленне" жаўнераў ВКЛ аддавалася польскае Падляшша і Мазовія да Віслы (Сагановіч, 2008: 107). Адзначым, тут яны не былі арыгінальнымі, бо дзеянні Берасцейскай і Гарадзенскай канфедэрацый 1606–1608 гадоў таксама распаўсюджваліся на ўсход Польшчы.

Хаця, згодна з рыцарскім этасам, уся шляхта лічылася ваярамі, але рэальны ўдзел у войнах прымала невялікая яе частка, менавіта яна на практыцы адпрацоўвала механізмы легальнага ўзаемадзеяння з цэнтральнымі і мясцовымі ўладамі ў сітуацыях канфліктаў інтарэсаў. Пры Жыгімонце Вазе, у час інфлянцкіх і маскоўскіх войнаў 1600–1629 гадоў, адбываецца пераход ад сістэмы земскай мабілізацыі да прафесійнага наёмнага войска. Дзяржаўны скарб быў пусты, і звычайна роты наймаліся за кошт пазыкаў магнатэрыі ВКЛ пад гарантыі дзяржаўнай кампенсацыі. Шляхта і магнатэрыя, якія выконвалі свае абавязкі перад дзяржавай, законна патрабавалі ад манарха трымаць яго абяцанні. Спосаб арганізацыі ўзброеных сіл ствараў магчымасць для магнатаў праз васальна-кліентэльныя сувязі маніпуляваць удзельнікамі канфедэрацый і ўздымаць сваю палітычную вагу ў ВКЛ.

За 1604–1614 гады войскам ВКЛ было створана 6 канфедэрацый, якія, па 2 разы кожная, займалі Менскае, Берасцейскае і Гарадзенскае староствы, рабуючы мясцовае насельніцтва ў "кошт пагашэння

запазычанасці дзяржавы за службу". Першай канфедэрацыяй войска ВКЛ стала звязаная з інтарэсамі кліентэлы біржанскіх Радзівілаў Менская канфедэрацыя лета 1604 года, а ў 1609 годзе да Гарадзенскай канфедэрацыі далучыўся вялікі гетман ВКЛ Я. К. Хадкевіч.

Важнымі этапамі ў станаўленні канфедэрацый як формы сацыяльнай арганізацыі былі іх правалы. Першая з такіх – восені 1604 года – была расколата Я. К. Хадкевічам і скончылася для яе арганізатара А. Ю. Лісоўскага і яго сяброў баніцыяй. Усе пазнейшыя канфедэрацыі ўжо імкнуліся ўтрымліваць адзінства да дасягнення мэты. Няўдача ў скліканні сходу пагражала "бунтаўнікам" пакараннем "на горла", як, напрыклад, Станіславу Скшэтускаму ў абозе пад Дэрптам (BCzart. Rkps. 99. №85). Рабаванні насельніцтва пры маршах і "на лежах" канфедэратаў былі пастаяннай з'явай, таму адносіны грамадства да жаўнерскіх звязаў былі адмоўнымі. Аднак дзяржаве патрэбна было войска, таму перад роспускам кола канфедэраты звычайна атрымлівалі ад караля афіцыйнае прабачэнне за злоўжыванні і імунітэт ад судовага пераследавання. Адмова часткі канфедэратаў раз'ехацца пасля разлічэння ці працяг рабаўніцтва разам з дэзерцірамі і "падшыванцамі", як, напрыклад, таго ж А. Лісоўскага, Яна Карвацкага ці былых "аршанскіх" з інфлянцкага войска ў 1614 годзе на чале з Габрыэлем Тупальскім, ставіў былых жаўнераў у шэраг злачынцаў, якіх улады вынішчалі. Так, банда Карвацкага была разбіта на Бугу ў траўні 1614 года, а 6 кастрычніка 1615 года ў баі са шляхтай і дзяржаўным войскам пад Ігуменам забілі каля 350 "тупальцаў", іх маршалку адцялі галаву, а схопленых у палон сотнікаў пасадзілі на палю (Сагановіч, 2008: 120).

Да прыняцця Гетманскіх артыкулаў 1609 года канфедэрацыі і аб'яднанні з мэтамі атрымання ўзнагароды за службу былі легальнымі. Дзеянне ў рамках заканадаўчага поля дазваляла і каралю, і жаўнерам дасягаць сваіх мэтаў. Канфедэрацыі выпрацавалі эфектыўны механізм адстойвання інтарэсаў шляхецкай карпарацыі ў канфлікце з дзяржавай. За 1600–1619 гады формы актыўнай шляхецкай самаарганізацыі ўвайшлі ў традыцыю, былі правераны на практыцы грамадскага жыцця. Стварэнне і дзейнасць вайсковых канфедэрацый былі важным этапам у развіцці сістэмы "шляхецкай дэмакратыі" ў ВКЛ.

### *Бібліяграфія*

1. *Ліст Яна Караля Хадкевіча да Жыгімонта Вазы, з-пад Дэрпта 28.01.1603 г.* BCzart. – Rkps. 99. №85.

2. Сагановіч, Г.М. (2008). "ВКЛ і вайсковыя канфедэрацыі 1612–1614 гг.", *Беларускі гістарычны агляд:* 100–123.

3. Янушкевіч, А.М. (2007). *Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558–1570 гг.* Мінск: Медісонт.

4. *Volumina constiutionum* (2005). T. II, vol. 1. Warszawa: Wydawnictwo Sejmowe.